Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 63 (114). Вільня, Субота 3 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для за граніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Жэнэўская канфэрэнцыя.

Апошняя сусьветная вайна, якая праліла мора крыві працоўных і зьніштожыла цэлыя дзяржавы, як асобныя самастойныя палітычныя гаспадарствы, далася ў знакі ўсім ваюючым народам.

Ужо ў часе вайны пачалі разумець, што дарогай уваружанай барацьбы вельмі рызыкоўна вырашаць споры між дзяржавамі, бо гэтае ваеннае аружжа сячэць абедзьве староны, і затым узьнiклі праекты вырашаць спорныя тэрытарыяльныя пытаньні на аснове самастанаўленьня народаў. Вэрсальскі мірны дагавор ня быў пабудаваны на аснове самастанаўленьня народаў, бо пераможцы, Францыя і Англія, хацелі выкарыстаць выключна для сябе сваю перамогу. Замест таго, каб зрэалізаваць прынцып аб самастанаўленьні народаў, замест таго, каб прызнаць незалежнымі ўсе народы, маючыя свой нацыянальны твар і заселяючыя з прад вякоў сваю тэрыторыю, на якой маюць лічэбную перавагу над іншымі нацыянальнасьцямі, — усім гэтым народам, як Беларускаму, Украінскаму, Каталёнскаму і іншым, тварцы Вэрсальскага трактату падсунулі 2-3 параграфы аб абясьпячэньні правоў нацыянальных меншасьцяў. Калі ходзіць аб фактычную нацыянальную меншасьць на пэўнай тэрыторыі, у той ці іншай дзяржаве, дык Вэрсальскі трактат, магчыма, зрабіў для яе ўсё, што толькі можна было зрабіць, каб бараніць яе правоў.

Аднак, на'т калі ходзе аб гэтыя меншасьці, то практыка выказала, што пасобныя дзяржавы не лёяльна адносяцца да Вэрсальскага трактату і затым зусім яго не выконваюць і, замест поўных правоў, проста перасьледуюць свае нацыянальныя меншасьці. Яшчэ горай стаіць справа з тэрыторыяльнымі меншасьцямі ў дзяржавах, якія на сваей тэрыторыі складаюць большасьць насяленьня, як напр.: Беларусы і Украінцы ў Польшчы, Каталёнцы ў Гішпаніі і інш. Гэтымі меншасьцямі Вэрсальскі трактат мала цікавіцца і зусім не абяспечвае іх правоў. Кожнаму кідаецца ў вочы, што тэрыторыяльныя меншасьці павінны быць зусім інакш разгляданы, не так як звычайныя меншасьці, што не маюць свае тэрыторыі, і што тэрыторыяльным меншасьцям павінна прыслугоўваць права на самастанаўленьне і на'т на абсалютную незалежнасьць. Вэрсальскі трактат абмінуў справу аб самастанаўленьні народаў і, як ужо ўспаміналі вышэй, даў меншасьцям толькі пару параграфаў аб ахове культуры, звычаяў і веры нацыянальных меншасьцяў. Але і гэтыя параграфы трактату не праводзяцца ў жыцьцё і затым некалькі год таму назад, сярод меншасьцяў, якія прызнаюць Вэрсальскі трактат, узьнікла думка аб абароне сваіх правоў супольнымі сіламі, дарогай супольнай міжнароднай арганізацыі меншасьцяў. Рэзультатам гэтае думкі было тое, што ўжо ў 1925 годзе была склікана ў Жэнэве (Швайцарыя) канфэрэнцыя нацыянальных меншасьцяў, у 1926 г. адбылася другая канфэрэнцыя, а сёлета 22-24 жніўня адбылася ўжо трэцяя канфэрэнцыя нацыянальных меншасьцяў. Беларускі Народ з пад Польшчы на ўсе гэтыя тры канфэрэнцыі пасылаў сваіх прадстаўнікоў (летась і пазалетась быў пасланы пасол Ф. Ярэміч, сёлета пасол Б. Рагуля), але гэтыя прадстаўнікі былі ўвесь час толькі обсэрватарамі, не прыймалі ў канфэрэнцыях чыннага ўдзелу. Узьнікае пытаньне, чаму прадстаўнікі Беларускага Народу езьдзілі на канфэрэнцыі, але ўсе тры разы не прыймалі ў ёй удзелу?

Як ужо было пададзена вышэй, арганізатары канфэрэнцыяў нацыянальных меншасьцяў сталі на грунце Вэрсальскага трактату і затым прынялі такі рэгулямін вузкі, што адкінулі права тэрыторыяльных меншасьцяў да самаазначэньня і імкненьня да незалежнасьці. Ані Беларусы, ані Украінцы, ані Ліцьвіны з пад Польшчы ня могуць згадзіцца з такім рэгулямінам і затым, рэч ясная, не прыймалі дагэтуль чыннага ўдзелу ў працах канфэрэнцыяў. Але ўсе тры разы Беларускі Народ высылаў сваіх прадстаўнікоў, якія згаджаліся стацца поўнамоцнымі сябрамі канфэрэнцыі толькі пад варункамі, што рэгулямін канфэрэнцыі будзе пашыраны, што тэрыторыяльныя меншасьці будуць мець права праз канфэрэнцыю заяўляць аб рэалізацыі прынцыпу аб самастанаўленьні народаў. Прэзыдыум канфэрэнцыяў не згаджаўся на такія зьмены рэгуляміну, бо хацеў трымацца Вэрсальскага трактату, каб такім чынам мець большую павагу ў вачох Лігі Народаў, якая між іншым разглядае ўсялякія жалабы нацыянальных меншасьцяў.

З вышэй зьмешчанага бачым, што становішча занятае Беларусамі адносна канфэрэнцыяў зьяўляецца вынікам імкненьня Беларускага Народу да самастойнага жыцьця — да незалежнасьці. Ідэя аб незалежнасьці ўжо так глыбока ўкаранілася ў душы Беларускага Народу, што ніякія сілы, ніякія палітычныя абставіны ня змусяць яго зрачыся яе. Як Беларускі Пасольскі Клюб, так і Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт з абноўленым прэзыдыумам, якія дэлегавалі на канфэрэнцыю ў Жэнэву п. В. Рагулю, маглі даць свайму дэлегату толькі адны паўнамоцтвы апёртыя на прынцыпе самастанаўленьня народаў, бо толькі яны адказваюць волі ўсяго Беларускага Народу.

Я. Незалежны.

## Пасольскі мітынг п. Ф. Ярэміча.

У нядзелю 28 жніўня г. году, мясцовыя арганізацыі Беларускага Сялянскага Саюзу ў Браслаўскім павеце наладзілі мітынг у Шаркаўшчыне, куды прыехаў пасол Ярэміч.

Пасла Ярэміча ў нядзелю раніцай сустрэлі на ст. Глыбокае, 17 вёрст ад Шаркаўшчыны. Мітынг адбыўся пасьля абеду.

Пасольская справаздача адбылася пад адкрытым небам; прысутных было надта многа, якія ўважліва слухалі прамову п. Ярэміча.

У сваей справаздачы п. Ярэміч выказаў наша палітычнае палажэньне і становішча ў Сойме і працу беларускіх паслоў. Ахарактарызаваў адносіны да нас польскіх палітычных груміровак і наагул абгаварыў увесь ход пасольскае працы ў Сойме ў працягу ўсяго часу.

Пасол Ярэміч расказаў, як яны ў Сойме пратэставалі проці зямельнае рэформы, якая праводзіцца цяпер, дамагаючыся лепшае і як баранілі ўвесь час і цяпер у апошнюю соймавую сэсію правы Беларускага Народу да самаўрадаў. Расказаў, як польскія партыі, як з правіцы так і з лявіцы, пагадзіліся ў Сойме, каб стварыць такія законы, якія-бы адхілілі Беларусаў ад фактычнага ўдзелу ў самаўрадах.

За сваю прамову пасол Ярэміч атрымаў падзяку воплескамі прысутных.

Мітынг прайшоў спакойна без усякіх эксцэсаў. Паліцыя, як і заўсёды ў гэтакіх выпадках, вельмі рупліва і дбала захоўвала бяспечнасьць, толькі няведама чыю ды ад каго? Гэтую руплівасьць і дбаласьць найлепш характэрызуе памятнае здарэньне ў Бельшчыне.

### Паездка у Шаўляны.

Пасьля мітынгу ў Шаркаўшчыне, пасол Ярэміч паехаў у вёску Шаўляны, Браслаўскага павету адведаць беларускую прыватную школу арганізованую Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры,

Прыехаў у Шаўляны пасол Ярэміч позна ў ночы, дык адведзіны школы адбыліся на другі дзень, г. зн. 29 жніўня.

Вучні Беларускае школы пасыпалі дарогу кветкамі і шчыра прывіталі пасла Ярэміча.

Сабраўшыся ў памешканьні школы дзеці дэклямавалі беларускія вершы і пяялі беларускія песьні.

Пасьля адведзінаў правадзілі пасла Ярэміча і разьвіталіся з пачуцьцём шчырае падзякі

## Справа кс. Гадлеўскага.

Жодзішныя парахвіяне, дзе кс. Гадлеўскі быў пробашчам, сабралі некалькі тысяч подпісаў пад пратэстам проці таго, што кс. Гадлеўскі, нават ня згодна конкардату і польскіх законаў пасаджаны ў катаржны вастрог за мест таго, каб кару адбываць ў кляштары. Адначасна жодзішныя парахвіяне дамагаліся звальненьня кс. Гадлеўскага на вольнасьць.

Тое самае зрабілі паразоўскія парахвіяне, ваўкавыскага павету, адкуль кс. Гадлеўскі паходзіць родам.

Як ведама, кс. Гадлеўскі асуджаны на 2 гады адседкі за тое, што будучы пробашчам у жодзішках карыстаўся ў касьцельных навуках беларускаю моваю і працаваў на ніве беларускага нацыянальнага ўсьведамленьня.

## Арышты на Беларусі.

У Наваградзкім і Лідзкім паветах адбыліся арышты. Арыштаваныя вінавацяцца ў прыналежнасьці да камуністаў і ў шпікоўстве на карысьць суседняе дзяржавы.

# З жыцьця Польшчы.

### Збожа даражэе.

Не гледзячы на тое, што, як пішуць газэты, ураджай сёлета ў Польшчы лепшы як у леташнім годзе, цяпер пасьля таго, калі толькі што сабралі гэты ўраджай з поля, падаражэла збожа.

І ломяць галовы польскія палітыкі шукаючы запраўдных прычынаў. Як высьвяюць газэты, дык на гэта ёсьць многа прычынаў.

Пашырыліся чуткі, што быццам абшарнікам дазволена вывозіць збожа за граніцу, а таксама быццам збожа даражэе ад таго, што ўрад думае стварыць запасы збожа, склады ў Вільні і ўва Львове.

Аднак-жа, як нам здаецца, дык будзе праўдзівей, што збожа даражэе ад таго, што ўрад ня можа ўпарадкаваць гаспадарчае жыцьцё краю.

### ,,Самаўрад'' у Львове

Львоўская мескавая Рада распушчана. Новыя выбары яшчэ ня вызначаны і калі адбудуцца ня ведама.

Кіраваць справамі места вызначаны часовы ўрад.

### І ў Кракаве — банда.

У Кракаве, у старым асяродку польскасьці, адбыліся арышты сярод Украінцаў, якія быццам выдавалі вайсковыя сэкрэты іншым дзяржавам. Сярод украінскай інтэлігенцыі адбыліся шматлічбовыя арышты.

У сувязі з гэтым выкрыты „шпікі" ў Станіславове і Львове і ў іншых месцах Галічыны. А пры гэтым ізноў арышты, арышты і толькі... арышты.

### Паводка ў Галічыне.

У Галічыне, пераважна ў львоўскім ваяводзтве здарылася вялікая паводка, якая затапіла вялікія абшары і прычыніла вялікія матэрыяльныя шкоды. Паводку прычыніла навальніца.

### І ў Вільні—паводка.

Нейк нядаўна над Вільняю прашла вялікая навальніца, у часе якое вада заліла некалькі склепаў. Пярун патушыў здаецца 300 электрычных лямпачак і трапіў нешта два разы ў будынкі. Чалавечых ахвяраў няма. Але вось яшчэ і другая паводка... Вада прарвала грэблю ў штучных ставах, належачых да айцоў мэсыянэраў (прапаведнікі-духоўнікі) і заліла вуліцу Прачкарскую і іншыя на Паплавах, (гэтак называецца частка м. Вільні).

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Балтыцкія справы.

Маленькія дзяржавы пры Балтыцкім моры: Літва, Латвія і Эстонія імкнуцца да саюзу. У гэтых мэтах прыежджаў латвійскі міністар Цэленс у Коўна, дзе вёў перагаворы з літоўскім урадам. Вярнуўшыся ў Рыгу Цэленс сказаў, што справа знаходзіцца на добрым шляху.

Праектуецца паміж гэтымі трымя дзяржавамі канфэрэнцыя ў мэтах гаспадарчага аб'яднаньня.

### Непаразуменьне з-за Войкава зьліквідавана

Савецкі камісар заграні́чных справаў Чычэрын абвясьціў, што непаразуменьне паміж Польшчаю і Саветамі, у справе забойства савецкага пасла Войкава ў Варшаве, зьліквідавана.

### Савецкае запярэчаньне.

Замежныя і польскія газэты ўвесь час пісалі аб халеры ў Радавай Беларусі. Аднак-жа савецкі ўрад пярэчыць гэтаму, сцьверджаючы, што ані на Беларусі, ані ў іншых мясцовасьцях савецкай тэрыторыі халеры няма.

### Рэкорд самалётаў.

Ангельскі лётнік праляцеў на самалёце 300 кілямэтраў за гадзіну. Да гэтага часу ніхто не дапяў гэтакае хуткасьці палёту.

### Кітайскія падзеі.

У кітайскай хатняй вайне перамагае армія ген. Чанг-Тсо-Ліна.

Ёсьць чуткі быццам сам ген. Чанг-Тсо-Лін хоча абвясьціць сябе кітайскім царом.

# НАВІНЫ.

**— Прыезд пасла Рагулі.** Пасол Рагуля, які выяжджаў у Жэнэву (Швайцарыя) на кангрэс нацыянальных меншасьцяў, 30 жніўня г.г. вярнуўся з падарожы ў Вільню.

На кангрэсе пасол Рагуля быў толькі наглядчыкам.

**— Калекцыі мінэралаў і гарнін.** Варочаючыся з Жэнэвы праз Прагу чэскую пасол Рагуля, старшыня Беларускага Сялянскага Саюзу, прывёз калекцыі мінэралаў і гарнін у ліку 132 штук, вагаю 55 кілёграмаў, афяраваных Беларускай Радай у Празе, для беларускіх установаў у Заходняй Беларусі. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры мае падзяліць прысланыя мінэралы між беларускімі школамі ў Заходняй Беларусі і ўстановамі.

**— Дазвол на беларускую школу.** Віленскі школьны куратар праз браслаўскага інспэктара выдаў Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры канцэсію на школу ў Шаўлянах, абставіўшы справу рознымі формулкамі. Тут і справа падручнікаў і праграма занятках і кваліфікацыя вучыцеля і пасьведчаньня ад доктара аб прыгоднасьці школьнага памешканьня.

Характэрна, што дазвол атрымаў Інстытут 31 жніўня г. г., г. зн. тагды, калі 1-га распачынацца павінна заняткі. Захады аб дазволе распачаліся яшчэ аж у травені месяцы.

**— Беларуская школа ў Рудаўцы.** Слонімскі школьны інспэктар дазволіў распачынаць заняткі ў беларускай прыватнай школе ў Рудаўцы, Слонімскага павету. Школа істнуе другі год, адчыненая Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры.

**— „Kurjer Wilenski" і „Наша Праўда".** „K. W." спачатку вельмі шчыра прывітаў спадара Янку Станкевіча за яго выступленьні процi Беларускага Сялянскага Саюзу. Тагды спадаровую „акцыю" падтрымалі некаторыя супрацоўнікі „Kurjera": яны думалі, што спадар разбурыць радыкальны Беларускі Сялянскі Саюз з незалежніцкаю ідэалёгіяй, а створыць умяркаваны з кірункам на Варшаву і будзе кіравацца загадамі „Kurjera".

Аднак-жа спадаровая акцыя не ўдалася. Ніякага перавароту, ня будучы яго сябрам, у Беларускім Сялянскім Саюзе, спадар Янка Станкевіч не зрабіў, а стаўшыся місюгінай, адхіліся ад яго нават і „кур'ерцы".

Двумя артыкуламі „Kurjer Wilenski" цьвердзіць, што Янка Станкевіч выступіў няўдала і наагул ніякага перавароту не зрабіў.

Нас-жа па даўнешаму ганіць за радыкалізм і апазыцыйнасьць да польскага ўраду.

Толькі „Наша Праўда", робіць сэнсацыю і вось тут то і выяўляецца яе „праўда".

Калі „Kurjer Wilenski" пакладаючы надзеі на Янку Станкевіча хваліў яго, дык „Наша Праўда" пісала, што гэта добра, бо і „Kurjer" хваліць, а калі „Kurjer" разачараваўся ў Янку Станкевічу і сцьвярдзіў яго няўдаласьць, дык „Наша Праўда" хоча прычапіць гэта як нагану Беларускаму Сялянскаму Саюзу, і пры гэтым маўчыць, што яе факт—рэк і супрацоўнік „Kurjera Wilenskiego" прыяцелі ў справе супрацоўніцтва з агентам вайсковай дэфэнзывы паслом Ваявудзкім.

**— Справа „цікавае плёткі".** Вярнуўшыся з падарожы пасол Рагуля дазнаўся аб „сэнсацыі", якая вельмі захапіла „Нашу Праўду". Сэнсацыяй гэтай была плётка абшарніцкага „Słowa" аб пераходзе яго да палянафілаў Паўлюкевіча. Ясна, што пасол Рагуля над усім гэтым пасьмяяўся, сказаўшы, што гэта чарговыя кпіны. А каб заспакоіць пана лу-Цкевіча, дык прасіў зьмясьціць гэтую нататку ў „Сял. Ніве", як запярэчаньне.

І „пасэкрэту" прызнаўся, што каб не шкадаваў факт-рэка „Нашае Праўды", дык пакінуўбы справу без увагі, дзеля яго, і толькі дзеля яго, каб не асіраціць Беларусаў (бо нязвычайнае захопленнасьць не жарты—ад гэтага можа ў факт-рэка „Нашае Праўды" сэрца лопнуць), дапускае на шпальты „Сялянскае Нівы" запярэчаньне ў справе, якая запраўды ня варта ніякае ўвагі. Бо што можа быць супольнага паміж Паўлюкевічам (Бѣлоруссом—рэакцыянэрам) і селянінам (сынам беларускае вёскі) паслом Рагуляй?

**— Ананімная адозва.** У суботу 27 жніўня ў Вільні зьявілася адозва „Беларускай Партыі Сацыял-Рэвалюцыянэраў", падпісаная Часовым Камітэтат Заходняе Беларусі Б. П. С.-Р. Дзеля таго, што ані ў тэксьце адозвы, ані ў канцы яе, не ўспамінаецца ніводная асоба, якая выдала гэтую адозву—трэба ўважаць яе ананімнаю. Ананімная адозва нападае на Саветы і на польскі ўрад, між іншым, за тое, што ў 1923 годзе разграміў партыю беларускіх сацыялістых-рэвалюцыянэраў. Між радкамі адозвы чуецца, што яна выдана пры дапамозе Польскай Партыі Сацыялістых, доказам чаго можа паслужыць хоць-бы тое, што на адозве зьмешчаны незалежніцкія лёзунгі, за якія ў сваім часе „Сялянская Ніва" была сканфіскавана, а гэтая ананімная адозва—не. Другім укосным фактам, які пацьвярджае палянафільскія мэты партыі, можа служыць тое, што ўрад дазволіў выпусьціць адозву ад імя разгромленай польскім урадам партыі.

**— Польскія коопэратывы будуюцца.** 30 жніўня гэтага году адбылася ўрачыстасьць закладзін памешканьня для бюра коопэратыўнага саюзу віленскага аддзелу і яго складаў. Гэта выразна сьведчыць, што коопэратыўны рух пашыраецца і становіцца запраўды рэальным.

Дрэнна толькі тое, што гэты рух праходзіць поўным і фактычным польскім кіраўніцтвам. Шкада, што Беларусы выпусьцілі гэтакую важную галіну грамадзкай гаспадаркі са сваіх рук.

# З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

### Лекцыі на правінцыі.

У самым Беластоку і ў Беластоцкім пав. істнуе некалькі Гурткоў Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Гэта вельмі цікава дзеля таго, што Беластоцкі павет лічыцца найболей палянізаваным. Яго абшар, польскі ўрад нават выключыў з пад „языковых уставаў". Аднак-жа бачым, што Беластоцкі павет зьяўляецца—беларускім.

Інструктар Б. І. Г. і К., які выехаў на месца ў Беластоцкі павет, каб адведаць Гурткі, па высьвятленьні сытуацыі піша, што народ мае вялікую цікавасьць да Інстытуту,— як да беларускае роднае ўстановы.

Народ вельмі запужаны рознымі зьдзекамі з боку прадстаўнікоў улады; у Гуртках і ў сяброў адбываліся частыя рэвізіі і наагул розныя замешкі і цяганіна.

У Парослах адбылася лекцыя 23 жніўня г. г. пад адкрытым небам дзеля таго, што не знашлося адпаведнага памешканьня. Тэмаю лекцыі было: Беларускія справы.

Прысутнымі на лекцыі былі ня толькі беларускія сяляне, але-ж і польскія жаўнеры, якія маюць там кватэраваньне. Асаблівую зацікаўленасьць выяўляла моладзь. З пачатку да лектара выяўлялі варожасьць польскія жаўнеры, аднак-жа хутка вялікая прыхільнасьць і ўвага пераважнай большасьці, пераканала гэтых „ворагаў", што творыцца нешта запраўды рэальнае, а дзеля гэтага, лекцыя прайшла спакойна і паважна.

Пад канец лекцыі пачаў крапіць нават дробны дожджык, аднак-жа і гэта не перашкаджала справе, бо жаданьне чуць роднае слова аб родных справах перамагла ўсякія іншыя дзейнікі. Ніхто не зьвяртаў увагі на дождж, гэтак вялікае зацікаўленьне ахапіла прысутных на лекцыі.

Пасьля лекцыі Гурток і сябры набраліся натхненьня і з большай энэргіяй узяліся за родную справу — Адраджэньня, бо ў ім шлях і спосаб вызваленьня і направы сацыяльнага ладу і жыцьця.

Гэтакія праявы безумоўна вельмі пацяшаюць кіраўнікоў беларускага руху. Гэтакія праявы сьведамасьці і зацікаўленьня выразна сьведчаць, што Беларускі Народ не загіне, а крок-за-крокам ідучы наперад, займе пачэснае месца сярод усіх народаў.

Пану лектару, за яго карысную працу, шчырая падзяка.

**Жар-Кветка.**

## Беларускі Народны Тэатр.

14 і 15 жніўня г. году Беларускі Народны Тэатр ставіў 2 спэктаклі ў Мядзьведзічах, Баранавіцкага пав. Мясцовае жыхарства спаткала Театр вельмі прыхільна і шчыра вітала. Мядзьведзіцкі Гуртой Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры выказаў вялікую дапамогу Тэатру тэхнічнага характару, а асабліва дзейна дапамагаў сябра Ф. Сьвірэпа.

Прысутных было вельмі многа. У часе антрактаў шмат-хто зьвяртаўся з рознымі запытаньнямі да кіраўніка Тэатру, які ахвотна выясняў кожнае пытаньне. Людзі цікавіліся ня толькі справаю Тэатру, але-ж наагул нацыянальнымі справамі.

Пасьля другога спэктаклю а 2 гадзіне ўночы Беларускі Народны Тэатр выехаў у Гайнін, дзе 16 жніўня адбыўся спэктакль.

І ў Гайніне таксама, як і ў Мядзьведзічах, было вельмі многа прысутных на спэктаклі: людзі прыходзілі і з іншых вакалічных вёсак. Адведалі спэктакль сяляне з вёскі Лапацічы на чале з Гуртком Беларускага Інстытуту. Пасьля спэктаклю Старшыня Лапаціцкага Гуртка выступіў з прамоваю вітаючы Тэатр і дзякуючы артыстам і Цэнтр. Ураду Інстытуту за працу на ніве беларускай культуры і асьветы.

Як у Мядзьведзічах так і ў Гайніне Тэатр атрымоўваў з іншых мясцовасьцяў запросіны, адкан-жа на жаль усіх нельга здаволіць бо адней трупе Тэатру з гэтым не справіцца.

**Прысутны.**

### Спэктаклі у Рубяжэвічах.

Беларускі Народны Тэатр 27 і 28 жніўня г. г. ладзіў спэктаклі ў Рубяжэвічах, якія адбыліся нармальна без ніякіх асаблівых здарэньняў пры добрых здаваляючых абставінах.

Меўся адбыцца і 29 жніўня, але-ж нейкая злосная плюгаўка данясла куды належыцца, што быццам артысты Беларускага Народнага Тэатру займаючы салю зьнялі партрэт Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі, а на тое месца занялі беларускаю „Пагоняю" (Пагоня—беларускі гэрб, які мае гэтакае значэньне для Беларусаў, як „Белы Арол" для Палякаў). З прычыны гэтага фальшывага даносу, староства выданы дазвол на спэктакль на 29 жніўня уняважніла.

Справа зусім інакай стаяла, а імення: артысты выстаўляючы беларускую „Пагоню" у мэтах ухіліцца ад магчымых непажаданых чыіх-колечы выбрыкаў, выставілі нароўні і польскі „Белы Арол". Так сказаць зраўнялі. Пэўна бы з гэтага паўстала цэлая працэдура, але-ж беларускі ксёндз Татарыновіч перакана̂ў „начальства" і з дапамогаю некаторых сьведкаў справу заладзілі. Дазвол староства выдала ня толькі на 29, а на'т і на 30 жніўня.

Дзеля таго, што канфлікт з уладаю заладзіўся толькі перад вечарам, думалася, што ніхто ня прыедзе на спектакль (хадзілі ужо чуткі, што артыстаў арыштуюць). Аднак-жа як толькі заіграла музыка, дык публіка пачала зьбірацца, дык так што нават першыя месцы амаль-што ўсе былі проданы.

Прысутнымі былі ня толькі з Рубяжэвіч, але-ж нават і з далекай ваколіцы. Між іншым прысутным быў вядомы Аляксюк, які пагладжываў свой жывоцік, пэўна ад здаваленьня. Можа пад дзействам ігра артыстаў прабудзілася ў ім беларуская душа?... Запрашаў, каб прыехаў Тэатр у Навагрудак.

Па заканчэньні спэктаклю былі паднесяны артыстам букеты кветак ад Беларусаў з Навагрудку і ад рубяжэвіцкае публікі.

Пасьля спектаклю артысты пялі Беларускія песьні і танцавалі на сцэне. Адбыліся танцы на салі з удзелам публікі.

Ігралі і пялі артысты, проста такі запраўда артыстычна і памастацку, з вялікім захопленьнем.

30 жніўня таксама адбыўся спэктакль з гэтакім самым пасьпехам.

31 жніўня Беларускі Народны Тэатр выехаў ў Івенец, Валожынскага павету.

Паслана за дазволамі на 2, 3, 4, 5, 6 г. верасьня да Валожынскага староства і на 7, 8, 9, 10 г. верасьня да Маладэчанскага староства.

Вялікую дапамогу Беларускаму Народнаму Тэатру аказаў Гурток Беларускаго Інстытуту Гаспадаркі і Культуры у Рубяжэвічах, за што артысты асталіся вельмі ўдзячнымі.

Пасьля 10 г. верасьня Бел. Нар. Тэатр мае прыехаць у Вільню, каб тут аправіцца, ды выехаць у кірунку Беластоку і Бельска.

**Мэтода.**

## Справа пасла С. Барана.

*(Пісьмо ў Рэдакцыю).*

Паважаны грам. Рэдактар!

З розных старон да мане зьвяртаюцца, каб паіфармаваць, у якім палажэньні знаходзіцца ў сучасны момант мая справа.

Каб збегнуць розных вэрсыяў, прашу не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце „Сялянскай Ніве" наступнае:

„У 1923 годзе, я быў засуджаны Акружным Судом за нібо-то прыналежнасьць да сыпіску, які меў заданьне, дарогай збройнага паўстаньня, стварыць Беларускую Рэспубліку, — з арт. 101 К. К. — на шэсьць гадоў катаргі, з арт. 102 К. К. — на 4 гады катаргі.

Суд Апэляцыйны адкінуў арт. 101 К. К. пакінуўшы ў сіле чатыры гады кары, з арт. 102 К. К.

Кару гэту я адсядзеў у працягу трох гадоў і сямі месяцаў, а пазасталую кару—Прэзыдэнт завесіў на пяць гадоў (т. наз. амнэстыя—не вярнуўшы праву).

Такім чынам мяне звольнілі з турмы, але, ня маючы праваў—я стаўся „жывым трупам".

Гэта, што да фактаў звальненьня з турмы.

Цяпер пазволю сабе напісаць некалькі слоў аб самым працэсе:

Пры разглядзе справы ў судзе, я заявіў, што я працаваў для добра свайго народу і змагаўся за яго незалежнасьць, бо гэта ёсьць мая ідэя і права кожнага народа, але я ніколі не меў нічога супольнага з „атаманам" Разумовічам-Хмараю і да ягонае арганізацыі не належаў і адпавядаць за іх чыны не магу.

Але мяне асудзілі. Асудзілі не на падставе канкрэтных дадзеных, а на падставе прыпушчань і апініі, якую мне зрабілі мае „прыяцелі".

Галоўны сьведка Ленкевіч, які працаваў з Разумовічам, а потым выдаў усіх, атрымаўшы за гэта агента паліцыі, сцьвердзіў на судзе, што я не належыў да гэтае арганізацыі, але ён чуў мае прозьвішча як паэта, які піша вершы. (У суд. сьледавацеля ён саўсім не ўспамінаў аба мне) і ня глядзячы на гэта—мяне асудзілі.

Я ведаў, што ў гэтым працэсе працуюць нейкія цёмныя сілы, якім я быў не пажаданы і яны ўсімі сіламі стараліся мяне „зьліквідаваць", але ня маючы дадзеных, я абсалютна ня меў магчымасьці іх выкрыць.

І вось цяпер толькі мне ўдалося выкрыць тую ніць „інспіратараў", аб якіх я ня ведаў пад час судовай расправы, як роўна-ж і ня мог ведаць аб гэтым Суд.

Аб гэтых матэрыялах я паведаміў Міністэрства Справядлівасьці, дамагаючыся разсьледаваньня і скіраваньня маей справы ў Найвышэйшы Суд для новага разгляду справы.

Міністэрства Справядлівасьці мяне паведаміла лістам № 4568/27 ад 3 жніўня месяца г.г., што гэтай справе дадзены бег.

Ці будзе разглядацца справа паноўна і калі ці новыя дадзеныя будуць узяты пад увагу, аб гэтым я ня ведаю.

Думаю, што ў хуткім часе гэта справа вырашыцца.

Вось усё, што ёсьць канкрэтнага ў маей справе.

Прашу прыняць выразы глыбокае пашаны

**С. Баран.**

Горадня, 20 жніўня 1927 г.



## Самае нязвычайнае.

(З казак Д. Андэрсэна).

Было абвешчана па ўсей старонцы: „Хто створыць нешта самае нязвычайнае, той атрымае царскую дачку за жонку і паўцарства ў пасаг".

Маладыя і старыя—усе жадалі гэтакага прызу; усе натужвалі свае галовы, жылы і ўсё цела, каб выдумаць і стварыць „нязвычайнае". Двое аб'еліся на сьмерць; трэці зусім нічога ня еў, дык умарыў сябе голадам; кожны нязвычайнае ўяўляў сабе пасвоему. Вулічныя хлопчыкі выхіляліся на выварат, практыкуючыся, каб плюнуць самым сабе на сьпіну—ім здавалася, што гэта і будзе самае нязвычайнае.

Праз нейкі час вызначана была выстаўка нязвычайнасьцяў. Суд (журы) складаўся з судзьдзяў усіх узростаў, ад 3 да 50 гадоў. Якіх толькі тут ня было цудаў! Але хутка ўсе згадзіліся на тым, што самае нязвычайнае на выстаўцы, гэта — гадзіннік, з вельмі хітрым і мудрым мэханізмам. Кожны раз, як толькі ён выбівае поўныя гадзіны, дык выходзяць фігуры, як жывыя ілюстрацыі да паказаных лічбаў.

— Але, гэта самае назвычайнае, — рашыў народ.

Гадзіннік выбіў раз,—з гары, якая раскрылася, вышаў Майсей і напісаў на скрыжалях Закону першую запаведзь: „Я ёсьць Госпад Бог Твой"... Гадзіннік выбіў два, дык зьявіўся райскі сад, а ў ём Ада і Эва. Пры трох ударах вышлі каралі-ваўхвы, 4 удары—чатыры поры году. 5 удараў—пяць пачуцьцёў і г. д. Пры сямі ўдарах—зьявілася сем сьмяротных грахоў, пры дзевяці—дзевяць музаў. А калі выбіла 12, дык вышаў начны сторож у плашчы з башлыком, нясучы ранічную зорку і прапяяў старадаўную песьню начных старажоў. І, накуль ён пяяў, дык вырасталі рожы і тварыліся з іх галоўкі анёлкаў.

Дзівачны быў гадзіннік: і слухаць, і глядзець—адное ачараваньне!

— Але, гэта самае нязвычайнае,—рашылі ўсе аднагалосна.

Майстар, які ўхітрыўся зрабіць гэты гадзіннік, быў хлапец справядлівы і добры, хоць бедны. Яму нават не зайздрасьцілі,—усе былі здаволены, што гэтакі слаўны хлапец заслужыў царэўну і царства.

Настаў дзень атрыманьня нагароды. Места было ўбрана і ўпрыгожана сьцягамі; царэўна сядзела ў троне, на які, дзеля гатага самага здарэньня, палажылі новую падушку з чыстага конскага валосься, хоць ад гэтага трон ня быў прыгажэйшым. Судзьдзі спагадна падміргвалі шчасьліўцу — ён і сам ужо ведаў, што стварыў самае нязвычайнае і знаў, якое шчасьце яго чакае.

— Не!! — пачуўся раптам крык і нанерад праціснуўся даўгавязы худашчавы мушчына. — Ня ён, а я здольны стварыць нязвычайнае. — З гэтакімі словамі нявеДамы кінуў сякеру ў дзіўны гадзіннік. Т-р-р-ах! — і ён разсыпаўся: колачкі, пружыны, усё было пабіта, паломана.

— Вось, на што я здольны! — з пагардаю прагаласіў даўгавязы. — Я перавысіў Слаю яго і ўсіх вас. Я стварыў—нязвычайнае!...

— Разьбіць гэтакую дзіўную мастацкую рэч, — гаварылі судзьдзі, — але, гэта ўжо запраўды нязвычайна!

Увесь народ трымаўся гэтакае самае думкі, дык даўгавязаму належала атрымаць і царэўну, і палавіну царства, бо закон павінен быць выкананы, хоць-бы і нязвычайны.

З меставай сьцяны і з усіх вежаў глашатай абвясьціў аб вясельлі. Ня было радасьці на твары царэўны, але ўсё-ж такі яна была вельмі мілавідная і ўбрана надта прыгожа. Царква сьвяцілася агнямі. Найслаўнейшыя дзяўчаты з песьнямі прывялі маладую, найлепшыя рыцары вялі пад рукі маладога. Ён высока нёс галаву і трымаўся гэтак проста, быццам сьпіна яго ня гнулася.

Пяяньне прыціхла і ў царкве запанавала гэтакая цішыня, што чутна было, як шпілька ўпадзе. І ўміг, з трэскам і грукам, адчыніліся ўхадныя дзьверы і, бум-бум, разбіты гадзіннік прамашыраваў праз усю царкву і спыніўся, стаўшы паміж маладым і маладою. Гадзіннік цяпер быў зусім у парадку, быццам яго ніхто не чапаў. І выбіваў па парадку, гадзіну за гадзінаю, да 12-ці. Першым вышаў з гары Майсей. Ад лобу яго пыхала агнём. Ён кінуў цяжкія каменныя скрыжалі (каменныя дошкі, дзе напісаны былі Дзесяць Запавядзяў Божых — увага Рэд.) на ногі маладому і прыгваздзіў іх да падлогі. — „Я не магу падняць іх", — прагаварыў Майсей. Ты адбіў мне рукі. Дык стой-жа як стаіш!" Пасьля зьявіліся Адам і Эва і каралі-ваўхвы з усходняе старонкі. І кожны з дакорам прагаварыў да маладога: „Сорамна!". Фігуры вырасталі вышэй чалавечага росту, рабіліся вельмі высокімі, здавалася, запраўдным людзям няма ўжо месца ў царкве. А калі на дванадцатым удары зьявіўся начны сторож у плашчы з башлыком і з ранічнаю зоркаю, дык пачалося нешта нязвычайнае. Сторож падышоў да маладога і ўдарыў яго зоркаю па галаве, прагаварыўшы: „Вось табе! Тут і ляжы. Вока за вока. Цяпер за нас і за майстра помшчана, і мы можам захавацца".

І ўсё зьнікла. Толькі сьвечкі гарэлі, а арганы заігралі самы сабою бяз арганістага. Дык усе прысутныя ў царкве гаварылі, што болей нязвычайнага з імі за ўсё жыцьцё нічога не здаралася.

„Цяпер прывядзеце да мяне запраўды выбранага" — сказала царэўна. „Ён стварыўшы дзіўны гадзіннік, будзе маім мужам і панам".

Хлапец ужо стаяў каля яе. Царква запоўнілася народам; усе радаваліся, усе багаслаўлялі маладых; і ніхто не пазайздросьціў шчасьліўцу—гэта і было самае нязвычайнае.

**Яснавід.**

# *Да ведама падпішчыкаў.*

*Часта падпішчыкі зварочваюцца ў адміністрацыю „Сял. Нівы„ з просьбай каб ім пасылаць газэты з надпісаным адрэсам, бо пошта аддае газэту або іншым асобам, або ляніцца надпісаць прозьвішча падпішчыка і гэтакім чынам адцягвае выдачу газэты.*

*У сувязі з гэтым высьняем наступнае: Паводле новых паштовых загадаў газэты пасылаюцца на карты прэнумараты, г. зн. кожны месяц адміністрацыя „Сял. Нівы“ робіць сьпісак падпішчыкаў (карты прэнумэраты) кожнай пошты і гэты сьпісак перасылае на пошту. У працягу ўсяго месяца адміністрацыя высылае на пошту пад апаскай, столькі нумараў газэты, колькі значыцца ў карце прэнумараты, Пошта пасьля атрыманьня газэт павінна надпісаць на кожным экзэмпляры газэты прозьвішча падпішчыка і даручыць газэту адрэсату.*

*РЭКЛЯМАЦЫІ.*

*У кожным выпадку, калі толькі падпішчык не атрымае якога нумару газэты, павінен падаць на пошту рэклямацыю такога зьместу:*

Да Віленскай Дырэкцыі Пошты і Тэлеграфу
праз Паштовы Ўрад

У . . . . . .
Гр. . . . . . . . .
з вёскі . . . . . . .
воласьці . . . . . .
павету . . . . . .

РЭКЛЯМАЦЫЯ.

Ніжэй падпісаны падпішчык „Сялянскае Нівы“ не атрымаў паступных нумараў газэты „С. Н.“: . . . . . .

Ветліва прашу зрабіць сьледзтва ў гэтай справе і аддаць мне недаручаныя нумары „Сялянскае Нівы“.

(—) подпісь.

Дня . . . . . 1927 г.

Калі-б падпішчык атрымліваў газэту спозьненую больш, як на тыдзень ад даты выхаду з друку газэты, дык у гэтым выпадку трэба падаць на пошту рэклямацыю такога зьместу:

Да Віленскай Дырэкцыі Пошты і Тэлеграфу
праз Паштовы Ўрад

У . . . . . .
Гр. . . . . . . . .
з вёскі . . . . . . .
воласьці . . . . . .
павету . . . . . .

РЭКЛЯМАЦЫЯ.

Зьяўляючыся падпішчыкам „Сялянскае Нівы“ але газэту атрымліваю вельмі неакуратна і з вялікім апазьненьнем. Напрыклад апошні № . . . „Сялянскае Нівы„ ад . . . . (падаць дату газэты) атрымаў толькі дня . . . . , г. зн. з запазьненем больш як на тыдзень.

Ветліва прашу выясьніць прычыны апазьненьня газэты і калі гэтае апазьненьне вынікае з віны паштовага ўраду, дык зрабіць загад аб акуратным даручаньні падпішчыкам газэты „Сялянскай Нівы“.

(—) подпісь.

Дня . . . . 1927 г.

---



# Да нас пішуць.

### Дакуль гэта будзе?...

(Лідчына).

Няма жыцьця беларускаму селяніну ў нашай ваколіцы. Нашыя ворагі, проста праходу не даюць. Калі дзе-небудзь чутна беларуская мова, дык зараз, ня ведама за што, абзываюць „камуністымі“ ці „бандытамі“ і г. п. А калі даведаюцца, што той ці іншы беларускі селянін больш сьведамы, выпісываець беларускую газэту, ну! дык тады ўжо бяда, тады ўжо на кожным кроку тармозяць. Цягаюць тады ўва ўсе пастарункі, да сьледчага, да старасты, і ўрэшце апыняецца за жалезнымі кратамі.

А спытацца за што? Можа ўкраў што, ці забіў каго?! Не! За тое, што наш селянін — Беларус, за тое, што ён гутарыць на беларускай мове, за тое, што дамагаецца сабе належных правоў, родную школу і г. д. Адным словам, каб быць народні ўва ўсіх галінах і правах з другімі культурнымі народамі, каб быць самастойным грамадзянінам на сваей роднай Бацькаўшчыне. І вось за такое дамаганьне сваіх правоў „мсьцяцца“ польскія паны-абшарнікі, ды поўпанкі-асаднікі, якім гэтая прaва вельмі не падабаецца. Для нашых паноў-ворагаў было-б пажадана, каб беларускі селянін заступаў ролю якога-небудзь чорна-скурага нявольніка. Цікава, ці не хацелася-б нашым вельможным абшарнікам, як было за колішніх часоў, вярнуць крэпасное права?!

Бачачы ўсё гэта, прыпамінаецца мне з сусьветнае гісторыі ў сярэднія вякі жыцьцё паднявольных народаў. Мала чаго адрожніваецца акцыя паноў-абшарнікаў проці беларускага сялянскага адраджэнска-нацыянальнага руху ад сярэдніх вякоў.

Ня буду ўжо шмат пісаць аб запраўдных ворагах адносна да нас, але ёсьць яшчэ і паміж нашых сялян такія адзінкі, якія за панскі дэкляраваны грош, ідуць на здраду сваіх суседзяў і зьяўляюцца панскімі „даносчыкамі“.

Вось напрыклад у вёсцы Ліпені жывець панскі падлізьнік Сьвіновіч, які, калі даведаецца, што нехта з сялян выпісываець беларускую часопісь, дык зараз даносіць пану-абшарніку, які жывець каля гэтае вёскі і ненавідзіць страшэнна тых, хто гутарыць на беларускай мове: ён, здаецца, утапіў-бы гэтых людзей у лыжцы вады. Калі толькі даведаецца, што з вясковых хто-небудзь выпісываець беларускую газэту, дык зараз „алярмуець“ на пастарунак, што гэты жыхар вёскі займаецца антыдзяржаўнай палітыкай. Ужо ня мала, ня ўчым ня правінуўшыся сялян, апынулася за кратамі, якія ня ведама за што, год або два, сядзелі да суда, пасьля „ўневінёныя“ вярочаліся да хаты. Дык вось, якая справядлівасьць за ўрадам паноў ды капіталістых. Хачу заценіць, што беларускія сяляне ня толькі ў гэтай галіне церпяць, але і ў шмат іншых.

Дык, дакуль-жа гэтак будзе?!...

Б—рус.

### З жыцьця вёскі Сычавіцы.

(Радашкоўскай вол., Маладэчанскага пав.).

Хто бываў у гэтай вёсцы, той ведае, дзе стаіць млын і які. Млын разлажыўшыся ў канцы вёскі, а пры ім валюш і застаў. Млын гэты належыць да пані Янушэўскай, якая аддала ў арэнду. Пры гэтым млыне ёсьць мост, які пачалі папраўляць, але не так папраўляюць цяпер, як даўней; даўней правіў ці новы рабіў, дык толькі гаспадар таго млыну, а сёлета ўжо іначай. Пані Янушэўская з сваімі сынамі кінулася на хітрасьці: зьвярнулася да радашкоўскага войта і цераз сычаўскага пьяніцу-солтыса, каб яны прыслалі людзей да млына на работу з вучастка па 6 дзён з канём і па 8 дзён без каня, а калі адбылі сычаўцы шарварку і млын быў ня кончан, дык тады сталі прыяжджаць і з вёскі Пяцюль на гэтую-ж работу. З пачатку прыгатавалі матэр'ял да мосту. Але сэкрэт і круцельства трошкі высьвятліліся; бо калі пачалі спушчаць ваду з-застава, каб будаваць з прыгатоўленага матэрыялу мост, дык акурат у гэты час прыехаў радашкаўскі камэндант з паліцыяй лавіць рыбу. Камандант паклікаў аднаго сычэўскага селяніна з мостовай працы памагчы цягнуць невад, але той, баючыся штрафу, пачаў адказвацца, дык тады камандант запытаў: а колькі табе плацяць? Ён адказаў—нічога. Дык камандант сказаў яму ісьці дамоў, а я, —кажа,—гэту справу высьвятлю, падам у суд. Але, як відаць, дык справа заціхла, ці-ж і п. камэндант мае нешта ад пані?

Гэты-ж чалавек, які меў сустрэчу з камандантам, разсказаў усё ў вёсцы. Сяляне хацелі падаць жалабу ў суд, але пабаяліся солтыса, бо ён усіх страша: або пастраляць, або на Лукішкі пазаганяць. (З нашай вёскі ўжо сядзяць два чалавекі ў вялейскім вастрозе, і як ходзяць чуткі—дзякуючы солтысу і другому шпіку В. Вудзю).

Як пані Янушэўская, так і яе два сыны, якія здабылі вышэйшую адукацыю, паквапіліся на гэтакі балючы, крывавы, сярмяжны мазоль, захацелі, замест гарбаты, выпіць апошнюю кроў з бедных, якая здабыта з сокаў бульбы.

Але хай памятуюць гэткія добрыя панкі і іх падлізьнікі, што прыдзе на ўсё пара, што Бог на ўсё судзьдзя.

Гэтая-ж пані зрабіла замен з Сычаўцамі: дала кавалачак зямлі пад пасьбу, а сама ўзяла ад вёскі кавалачак зямлі пад застаў (каля мосту). Але п. Янушэўская зламала ўмову і пазатыкала віткі на сваей зямлі на знак забароны, а нашай карыстаецца. Сяляне павырывалі віткі і карыстаюцца пасьвіскам далей. Што-ж будзе з гэтага?!...

Марка Бяздольны.

### Дзе прычына.

(Пружаншчына).

Польскі Ўрад затапіўшы Беларускія землі польскімі асаднікамі апраўдвае гэтыя ўчынкі тым, што гэтые асаднікі свой час прыхіліліся дабравольна да вызваленьня бацькаўшчыны, дык і атрымалі за гэта зямлю, як нагароду. Але вось у нашай селецкай воласьці ёсць селянін Б. Х. які таксама быў дабраволвцам ў польскім войску; яму так сама „абяцалі“ дзялку, а калі падышло да дзела дык сказалі — пачакай!... Дзялкі ён абяцанае не дастаў...

В. Х. інвалід доўгі час стараецца перад уладаю, каб хаця далі канцэсыю на якое-колечы „прадпрыемства“, хоць на прадаж якіх папіросаў,—але і на гэтя кажуць яму паны — пачакай!... А чаму? Таму што ён Беларус!...

Гэта нічога, што ён стаў інвалідам у польскім войску бароначы польскую дзяржаву!.. Хоць і заслужыў, але калі Беларус, дык ідзі далоў ад здабытага разам жалабка!...

Вось як выглядае справа польска-беларускга супрацоўніцтва. Гэта знача—па-польскай лёгіцы—„роўны з роўным“. Палякам усё, а Беларусу нічога, хоць здабылі разам.

*Osa.*

---

# НАШАЯ ПОШТА.

**Янку Белюку:** Згодна Вашае просьбы паслала Вам кнігарня: Першыя пачаткі малітвы і эвангеліе паводле Лукі. Больш тымчасам рэлігійных кніжак для праваслаўных няма. На тое, каб ператлумачыць з старае славянскае мовы на беларускую рэлігійныя кніжкі і каб надрукаваць іх, дык трэба грошы, якіх Беларусы, па сваей беднасьці, ня маюць.

Вы праўду пішаце, што Беларусы павінны мець у сваей мове і лякарскія кнігі, але-ж, на жаль, ня маюць грошы на друкаваньне кніжак.

**М. Беднаму:** Ваш верш слабы, да друку не падходзіць. Карэспандэнцыю зьмяшчаем і просім яшчэ пісаць. Пішэце аб сёлетнім ураджаі, ды аб сялянскай працы бягучага часу.

**М. Хруцкаму:** Глядзіце адказ: „Да ведама падпішчыкаў“. № 31 і 56 пасылаем.

**Оса:** „Паганая служба“ падходзе толькі ў газэту.

**К. Паўловічу:** У Вільні бугальтэрска-карэспандэнцыйных курсаў няма. На колькі нам ведама, у Львове, Украінскі Рэвізыйны Саюз Коопэратываў вядзець коопэратыўна-карэспандэнцыйныя курсы.

**П. Лукашэвічу:** Білет паслалі. Грошы прысылайце пераказам, які Вам выслалі.

**Б. Жыбко:** Адказ пасылаем пісьмом.

**Кірылюку М., Данкевічу П., Бічу Я., Якімовічу В.** — газэту пасылаем.

---



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.